Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 17 18– 24 жніўня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

**Здарэнні**

## Вагон сышоў з рэек

У сераду па абедзе часова быў спынены чыгуначны рух на лініі Мінск-Маладзечна. На станцыі Дубравы сышоў з рэек вагон грузавога цягніка. Як паведаміў дыспетчар дыстанцыі сігналізацыі і сувязі прычынай гэтага стаў ніжні люк вагона, што адчыніўся. Рух цягнікоў аднооўлены.

*Аддзел інфармацыі*

**Навіны рэгіёна**

## Рыхтуйце запасы на зіму! Красненскі кансервавы завод на гэты раз вас не выручыць.

*МАЛАДЗЕЧНА. Упершыню за ўсю гісторыю свайго існавання працуе ў паўнапалу ў перыяд нарыхтовак Красненскі кансервавы завод. Хаця яшчэ з вясны яго работнікі рыхтаваліся да наступлення сезону, у чэрвені правялі капітальны рамонт. Дык па якой прычыне прадпрыемства пакідае нас без сокаў, напіткаў, варэння, марынаваных агуркоў і памідораў?*

Па словах эканаміста Ірыны Мікалаеўны Лавар, іх завод, як і іншыя аналагічныя прадпрыемствы воблсаці, не атрымаў дзяржаўных крэдытаў пад нарыхтоўкі. А без грошай дзе ўзяць сыравіну, цукар, шклотару? Каб зусім не спыніць вытворчасць, красненцы перапрацоўваюць сыравіну розных мінскіх арганізацый, шукаюць іншыя шляхі выйсця з цяжкага становішча. Рыхтуецца тут і дакументацыя для пераўтварэння завода ў акцыянернае таварыства. Але спецыялісты сумняваюцца, што гэты крок прынясе нейкі плён, пакуль урад не павернецца тварам да іх праблем і не спыніць эксперымент на выжыванне.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## За аўтографам паэта едуць... у Бурмакі

*ВАЛОЖЫН. «Вершы прываблiваюць перш за ўсё сваёй шчырасцю,, інтымнай даверлівасцю да чытача, яркай непрыдуманай вобразнасцю, дакладнасцюпаэтычных тропаў,» — так ухвальна ахарактарызаваў рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Маладосць», лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Віктар Гардзей новую кнігу паэзіі.*

А належыць яна ўзнёсламу пяру прафесійнага паэта з вёскі Бурмакі Алеся Пісарыка. Ён — пастаянны аўтар «Літаратурных старонак» — творчай нівы членаў раённага літаб'яднання «Рунь», што працуе пры рэдакцыі Валожынскай райгазеты «Працоўная слава». Сюды, у вёску, да першаснoў паэзіі, ён пераехаў, кінуўшы некалькі гадоў таму мінскую прапіску...

Наталяючы душу водарам натхнення, ліецца рака яго паэзіі. Яна становіцца ўсё больш глыбокай і шырокай: шостая кніга паэта ўжо выйшла ў свет. Новы зборнік, які носіць назву «Пакуль гарыць мая зара», выдадзены дзякуючы Мінскаму таварыству з абмежаванай адказнасцю «Бетарк». Чытаеш кнігу — і чуеш шчырую малітву паэтычнай душы.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## Святыня павінна быць святыняй

*АСТРАВЕЦ. Магчыма, менавіта гэтым і кіраваліся ўлады, калі прынялі рашэнне аб перадачы вернікам касцёла святога Крыжа, які быў пабудаваны яшчэ ў канцы XIX стагоддзя ў Астраўцы. Да гэтага часу ў касцёле размяшчаўся склад мясцовага распажыўсаюза.*

Цяпер тут пачаліся рэстаўрацыйныя работы. І, натуральна, людзям адным было б даволі цяжка справіцца з рамонтам. Таму на дапамогу прыйшлі прадпрыемствы і арганізацыі раёна. Так, дырэкцыя НВА «Бел-Ост» выдзеліла бясплатна брыгаду зваршчыкаў. А работнікі Палушскага лясніцтва займаліся будаўніцтвам рыштаванняў. Праца працягваецца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Свае пасведчанні інваліды могуць пакінуць дома

*МАЛАДЗЕЧНА. Часцей цяпер могуць катацца на таксі маладзечанцы. Праўда, таксі гэтыя маршрутныя.*

А калі яшчэ дакладней, — гэта звычайныя гарадскія аўтобусы, 9 з якіх па рашэнню гарвыканкома з 15 жніўня па выхадных днях абслугоўваюць пасажыраў па павышаных тарыфах— 1 тысяча рублёў. І яшчэ адна дробязь. Свае пасведчанні інваліды могуць пакінуць дома: льготы тут не дзейнічаюць.

Ці прыбавіцца ад гэтага камфорту? Ці менш прыйдзецца чакаць на прыпынках гэтых "таксі"? Пытанні застаюцца. Але статыстыка сведчыць: у леташнія часы 40 аўтобусаў перавозілі гараджан па выхадных, цяпер жа разам з таксі іх будзе ўсяго толькі васемнаццаць.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА*

## Ёсць кантакт ад Ніжнега Ноўгарада да Балтыйскага мора. «Еўракантакт».

*Людміла Раманава працуе бухгалтарам у Маладзечне ў фірме «Еўракантакт». «Еўракантакт» трывала заняў сваё месца ў малым бізнесе, наладзіў добрыя камерцыйныя сувязі не толькі ў нашым рэгіёне, але і ў Расіі, на Украіне, у краінах Балтыі.*

Нягледзечы на цяжкасці, «Еўракантакт», якім кіруе Аляксандр Мядзведзеў, актыўна развіваецца, шукае і знаходзіць новыя шляхі сваёй дзейнасці. І таму добра ведаюць фірму ад Ніжнега Ноўгарада да Балтыйскага мора. Аляксандр Мядзведзеў у свой час зрабіў стаўку на маладыя кадры. І не памыліўся. Настойлівасць маладых, асабліва калі яны добрыя спецыялісты, дае свой плён.



*Фота Вячаслава Табуліна*

## Адкладзі справы і падпішыся!

**Вам прыйшлася даспадобы наша газета! Каб застацца з «Рэгіянальнай» і ў наступным квартале-- падпішыцеся на яе. Кошт падпіскі на чацверты квартал— 9 тысяч рублёў. Індэкс 63212. Жыхары Маладзечаншчыны, Вілейшчыны, Мядзельшчыны, Смаргоншчыны, Ашмяншчыны, Валожыншчыны, Астравеччыны, не забудзьцеся зайсці ў бліжэйшае аддзяленне сувязі, каб падпісацца на «РГ»! Работнікі пошты, пасрыяйце чытачам «Рэгіянальнай» сваім землякам! Поспехаў вам і здароўя!**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ

63212 (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў 1

На 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА

ПВ месца літар на 63212 (індэкс выдання)

РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ

| Кошт | падпіскі | 9000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# Карыда па-маладзечанску

Звычайны жнівеньскі дзянёк нічым не прадракаў бяды вадзіцелю "ГАЗ-52" , які ехаў з Мядзельскага раёна на Маладзечанскі мясакамбінат у кампаніі пяцёх пыхаючых здароўем і сілай бычкоў. Аднаму з іх пашчасціла трапіць на газетную старонку "Рэгіянальнай" зусім нечаспадзявана...

Двухгадовы волат, які адліваў на сонцы чорнай як смоль шкурай, на адным са шматлікіх паваротаў у Маладзечне зваліўся з кузава. Устаў. Схамянуўся. І адчуўшы, што вяроўка больш не муляе яму, пусціўся на ўцёкі. Яго шлях ляжаў праз "прыватны сектар".

Затрымаць раз'юшаную істоту даручылі мясцовай міліцыі. Тарэадорам належала знайсці і абясшкодзіць неслуха. А той, як на грэх, не спяшаўся трапіць пад нож, а потым на перапрацоўку. Ён прабег не адзін кіламетр вуліц, напалохаўшы сваім з'яўленнем мноства малых і дарослых. Людзі кажуць, што калі міліцыянер з групы затрымкі адважыўся выйсці сам-насам з жывёлінай, бык крыху пападзёр яго.

Невядома, колькі часу працягвалася пагоня, толькі зрэшты наш чарнявы прыгажун быў загнаны гулам міліцэйскіх машын і іх дзеяннямі ў рачулку недалёка ад мясакамбіната . Дзе і быў забіты кімсці са службы аховы парадку. Пяць стрэлаў з табельнага пісталета вытрымала сэрца волата, але не спынілася. Толькі апошні, шосты стрэл адправіў яго ў небыццё. Ці то цэлілі у "малако" , ці то сапраўды бычок быў вельмі моцны.

Карыда скончылася тым, што туша, сабраўшы ля сябе з дзесятак жыхароў бліжэйшых дамоў , была выцягнута на бераг. Міліцыянеры, выканаўшы сваю справу, раз"ехаліся. Але ўзнікла патрэба перарэзаць горла бычку, каб мяса не сапсавалася. На гэта адважылася адна ўжо сталая гаспадыня. Мужчыны ж не рашыліся нават падысці да асілка. Толькі стаялі і назіралі, штораз даючы тлумачэнні цікаўным прахожым. Сярод іх была і я. Напэўна, здарэнне гэтае да таго часу ўжо паспела абрасці чуткамі, але стрэлы былі чутны яшчэ здаля і бычка з перарэзаным горлам я бачыла на свае вочы. А што пачула ад людзей, тое і вам распавяла.

*Ірына Шастаковіч.*

Сябе не шкадуем

## Вось дык парыбачылі!

Чацвёра сябрукоў з Маладзечна вырашылі ў мінулыя выхадныя палавіць рыбку на Нарачы. Прыехалі на Мядзельшчыну на серабрыстым "Фордзе", спыніліся на беразе возера непадалёку ад Пасынкаў. Вечарам добра выпілі, але ўсім падалося, што мала. Спіртное, якое прыхапілі з сабою ў дарогу, як на тое ліха, скончылася. Што рабіць? Нехта падаў ідэю пашукаць выпіўку ў жыхароў вёскі. Знайшліся і два "добраахвотнікі".

Падыйшоўшы да першага дома, адзін з іх пачаў "малаціць" у акно веранды, разбіў шыбіну. Час, дарэчы, быў позні— за поўнач. Аднак гаспадар аказаўся не з баязлівых: выскачыў з хаты і агрэў парушальніка спакою па плячах тым, што трапіла пад руку.

Бачачы такі паварот справы, начныя шукальнікі спіртнога кінуліся наўцёкі. Адзін з іх у цемры зваліўся на поўным хаду ў канаву, моцна ўдарыўся. З яе забралі пацярпеўшага супрацоўнікі міліцыі, якіх выклікалі жыхары Пасынкаў, завезлі хлопца ў бальніцу, дзе яму і аказалі неабходную дапамогу. Сябра ж яго затрымалі на шашы.

Але прыгоды маладзечанцаў на Мядзельшчыне на гэтым не завяршыліся. Тым хлопцам, што засталіся на беразе, надакучыла чакаць сваіх кампаньёнаў і яны, як сапраўдныя сябры, вырашылі адправіцца ў пошукі. Не ўлічылі толькі аднаго: п'яным за руль лепш за ўсё ніколі не садзіцца. Але яны на той момант і не ўспомнілі аб гэтай жыццёвай аксіёме...

Селі ў машыну, даехалі да Мядзела. Зразумелая справа, прапаўшых так нідзе і не ўбачылі, затое самі трапілі ў поле зроку міліцыі. Замест таго, каб спыніцца, вадзіцель прыбавіў газу. Але з кіраваннм не справіўся і "Форд" зваліўся ў кювет.

Асноўныя вынікі рыбалкі невясёлыя: Казьмярчук за начны дэбош у Пасынках арыштаваны на 15 сутак, адміністрацыйнае пакаранне чакае і нецвярозага вадзіцеля. Плюс да ўсяго— іншамарка атрымала істотныя пашкоджанні і яе рамонт "уляціць" у добрую капейку. Зыходзячы з гэтага, не грэх і задумацца: каму патрэбны такія вось выезды на прыроду?!

*Наш кар.*

ЗАЎТРА

## Міжнародны мемарыял-рэквіем у Мядзеле

***МЯДЗЕЛ. Заўтра тут, на плошчы Шаранговіча, стартуе міжнародны спартыўны мемарыял-рэквіем. На працягу двух дзён паспаборнічаюць бегуны, турысты, веласіпедысты, а таксама пройдзе асабіста-каманднае першынство па пажарнаму спорту.***

Гэты мемарыял- рэквіем прысвечаны памяці пажарнага з ЧАЭС Васіля Ігнаценкі і ўсіх ахвяр буйнейшай экалагічнай катастрофы. Пасля яе толькі на Украіне і ў Расіі памерла ля 135 тысяч ліквідатараў, вельмі многія сталі інвалідамі. Страты ж Беларусі за дзевяць год не абагульнены.

Праводзіцца мемарыял-рэквіем з мэтай развіцця і папулярызацыі найбольш даступных насельніцтву масавых відаў спорту, здаровага ладу жыцця, умацавання спартыўных і сяброўскіх сувязяў паміж дзяржавамі, якія прымалі найбольш актыўны ўдзел у ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. І, вядома ж, прыцягнуць увагу грамадскасці да пагражальнага стану экалагічнай сітуацыі, каб захаваць планету для нашчадкаў.

Да ўдзелу ў спаборніцтвах, за выключэннем пажарнага спорту, дапускаюцца ўсе жадаючыя грамадзяне рэспублікі, краін замежжа. Бегуны паспаборнічаюць у васьмі ўзроставых групах, самая галоўная для іх дыстанцыя— звышмарафонскі прабег (61,6 кіламетра). Турысты змогуць паспрабаваць свае сілы на любым з трох маршрутаў: 43, 20 і 10 кіламетраў. Аматарам веласіпеда прапануецца траса вакол возера Нарач...

Сёння ўсе ўдзельнікі мемарыяла-рэквіема збіраюцца ў Мядзеле, для размяшчэння гасцей падрыхтавана сярэдняя школа N1. Для найбольш поўнага і якаснага абслугоўвання прыехаўшых прадугледжана забеспячэнне іх бясплатнымі гарачымі абедамі. З 16 гадзін спецыльныя аўтобусы будуць курсіраваць па маршруту Маладзечна — Мядзел, што дазволіць удзельнікам спаборніцтваў дабрацца да месца прызначэння без асаблівых праблем.

*Наш кар.*

Дажыліся

## Хлопцы, стрэльбачку бяры!

***Пенсіянерка з нашага садова-агародніцкага кааператыва маладзечанскіх электрасетак " Краснае" ледзь не страціла прытомнасць, калі, прыйшоўшы на ўчастак, убачыла спустошаную, яшчэ ўчора радаваўшую вока і сэрца урадзіўшай цыбуляй градку. Гэта ж трэба! Напярэдадні і думала, што пара ўжо здымаць ураджай. І на табе, дапамаглі! А ў суседа выцерабілі поўграды— відаць, спудзіў...***

У ранішніх-вячэрніх электрычках толькі і размоў у дачнікаў розных кааператываў: там агуркі панеслі з кабачкамі, там часнок нават летні, недаспеўшы яшчэ, знялі (відаць, пераблыталі ноччу з зімовым), у некага яблыньку абтрэслі.

А ў нашым кааператыве адразу пасля таго набегу з'явіўся на дошцы аб'яў графік начных дзяжурстваў з абавязковым абходам тэрыторыі, учыненнем запісу ў спецыяльным журнале.

Стрэльбы ў мяне няма, але вось свайго чацвераногага Ральфа пачынаю рыхтаваць да вартаўніцкай службы.

*Валянцін ЛІПНІЦКІ.*

Анонс

## Першы прэзідэнт, які пабываў на Нарачы

Было гэта ў 1930 годзе. Аб прыездзе на Нарач Прэзідэнта Польшчы Ігната Масціцкага чытайце ў адным з наступных нумароў «РГ».

Пошта «РГ»

## Камуністы не пагадзіліся

***З загалоўкам «Дазвольце не пагадзіцца» прыйшоў у рэдакцыю ліст, падпісаны першым сакратаром Маладзечанскага гаркома ПКБ Паўлам Божкам. У ім, гаворыцца:***

«У «Рэгіянальнай газеце» ад 28 ліпеня 1995 года была надрукавана публікацыя аб сустрэчы прадстаўнікоў партый і рухаў, што актыўна дзейнічаюць у Маладзечне, а таксама так званых незалежных дэпутатаў, ВС і гарсавета.

Аўтар публікацыі В. Маркелаў азаглавіў яе так: «Знайшлі згоду камуністы і бэнээфаўцы. І не толькі яны». Але, па сутнасці, гэта сустрэча прадугледжвала толькі дыялог, абмен меркаваннямі сабраўшыхся і не больш. Ніякай згоды паміж сабраўшыміся і рашэнняў аб якойсці згодзе не прымалася. Тым не менш аўтар публікацыі, жадаючы выдаць жадаемае за яўнае і павысіць рэйтынг БНФ напісаў, што камуністы знайшлі згоду з бэнээфаўцамі. Дазвольце з гэтым не пагадзіцца і паведаміць, што пры той палітыцы, якую праводзіць БНФ і яго кіраўніцтва па пытаннях аб'яднання краін СНД у адзіную сям'ю і ў першую чаргу з Расіяй, аб двухмоўі, аб сімволіцы, аб процістаянні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, аб адносінах да Саюза афіцэраў, абзываючы яго фашысцкім і інш., ніякай згоды з бэнээфаўцамі ў камуністаў ніколі не было, няма і не будзе.

Загаловак публікацыі Маркелава з'яўляецца чыстай выдумкай і дэзінфармацыяй чытачоў «Рэгіянальнай газеты».

Першы сакратар Маладзечанскага гаркома ПКБ П. БОЖКА».

***Ад рэдакцыі. «Рэгіянальная газета», застаючыся газетай непалітычнай, менш за ўсё хоча бачыць на сваіх старонках палітычныя спрэчкі. Выносячы ў загаловак названай публікацыі словы аб згодзе, выказвалася стаўленне да апісваемай сустрэчы аўтара і рэдакцыі. Шкада, што да згоды, усё ж, не дайшло.***

Навіны рэгіёна

## Садок у Гародзьках наведвала 6 дзяцей. Даглядалі іх пяцёра дарослых.

***ВАЛОЖЫН. У раёне працуюць 29 дзіцячых садкоў, 28 з іх утрымліваюцца на балансе раёна, 1 — належыць Міністэрству абароны РБ.***

На 1 студзеня бягучага года дашкольныя ўстановы наведвалі 1366 выхаванцаў. З 1 чэрвеня спыніла існаванне ясельная група ў Вішнеўскай дзіцячай дашкольнай установе, з 1 ліпеня — у Пугачоўскай, адпаведна змяніліся і іх назвы: цяпер яны сталі проста дзіцячымі садкамі.

Сітуацыя ў раёне ўтварылася такая, што і самі садкі ў сельскіх населеных пунктах пад пагрозай закрыцця. У Гародзьках, напрыклад, у апошні час садок наведвалі ўсяго 6 дзяцей, на якіх прыходзілася 5 штатных работнікаў. Таму з 16 чэрвеня дашкольная ўстанова — на замку. І работнікі начале з загадчыцай Алай Скапец заклапочаны тым, як сабраць да верасня хаця б 15-20 дзяцей. У іншым выпадку садок не адчыніцца. Менавіта па такой прычыне няма цяпер дзіцячай установы ў вёсцы Забрэззе, цэнтры калгаса імя Куйбышава.

Адток дзяцей пачаўся не ўчора. Па-першае, палохае бацькоў усё ўзрастаючая аплата. Дзе ўзяць тыя ж 44 тысячы рублёў, калі зарплату ў калгасах не выдаюць па 3-4 месяцы?! Па-другое, і харчаванне ў садках стала дрэнным, Дзеці прыходзяць дадому літаральна галоднымі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Такая з'ява— не прымаецца заява

***МІНСК. Днямі тут прайшоў Сойм БНФ. Сярод шэрагу пытанняў тут закранапася праблема беларускай школы.***

Намеснік старшыні Сойму Лявон Баршчэўскі распавёў аб становішчы ў сістэме адукацыі краіны. Ён адзначыў, што пасля майскага рэферэндуму на ўсёй Беларусі пачаўся наступ на беларускую школу. Шмат у якіх школах дырэктары адмаўляюцца прымаць заявы ад бацькоў, якія жадаюць, каб іхныя дзеці-першакласнікі вучыліся па-беларуску. У шэрагу выпадкаў у выніку ўціску або ашуканства адбываецца перавод ужо існуючых беларускамоўных класаў на рускую мову навучання. Спадар Баршчэўскі назваў гэтыя дзеянні антыканстытуцыйнымі ды антызаконнымі, таму вінаватыя адказныя асобы з цягам часу будуць несці адказнасць.

*Алесь КАПУЦКІ*

## Фестываль— у Чысці?

***—Прапаную рэспубліканскі фестываль песні і паэзіі ў будучым праводзіць у вашай Чысці і зрабіць яго міжнародным,— гэтыя словы народнай артысткі Беларусі, вядомай тэлевядучай Зінаіды Бандарэнкі патанулі ў бурнай авацыі.***

А завяршалі яны вялікае выступленне Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга з яго вядомымі салістамі Тота Майсурадзэ, Якавам Навуменкам, Валерыем Дайнекам, Наталляй Тамела, Інай Афанасьевай...

Канцэрт жа вядомага калектыву заключаў урачыстасці, якія адбыліся ў пасёлку Чысць з нагоды Дня будаўніка і прымеркаванага да святкавання пяцігоддзя АТ «Забудова». На сёння гэта акцыянернае таварыства з'яўляецца галоўным стрыжнем, вакол якога няўхільна памнажаецца прамыслова-будаўнічы патэнцыял, які забяспечвае інтэнсіўнае сацыяльнае развіццё паселішча.

Вось-вось увойдзе ў строй пяць заводаў буйнога домабудаўнічага камбіната, якія узводзяць турэцкія і германскія фірмы. Тут ёсць свой банк, свая гандлёвая сетка, толькі што адкрыўся вялікі спартыўны комплекс з некалькімі заламі, басейнам, стадыёнам.

Не менш прыцягальная і перспектыва як «Забудовы», так і Чысці.

*Валянцін ЛІПНІЦКІ.*

# ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

◆КУПЛЮ гаражныя вароты. Тэл. у Маладзечне 7-38-00.

◆КУПЛЮ любы аўтамабіль, можна аварыйны, да 300$.Тэл. у Маладзечне 6-57-56.

◆ПРАДАЮ дом на беразе Нарачанкі ў Вілейскім раёне. Тэл. у Маладзечне 7-37-33.

◆ПРАДАМ дом у цэнтры Смаргоні 6x12 драўляны з гаспабудовамі, садам, агародам. Тэл. у Смаргоні 2-29-18.

◆ПРАДАМ баян "Рубін-5"(танна), акардэон "Вельтмайстар" 3/4 (танна), баян "Эцюд". Тэл. у Мінску 40-00-58.

◆ПРАДАЮ аўтамабіль ГАЗ- 24 1984 г. Тэл. у Вілейцы 5-44-26 пасля 18-00.

◆ПРАДАЮ новую глыбінную помпу маркі "НЦ". Цана ніжэй за дзяржаўную. Тэл. у Смаргоні 5-27-52 пасля 20 гадзін.

◆МЯНЯЮ 4-пакаёвую кватэру ў п. Чысць Маладзечанскага раёна на раўназначную або 3-х пакаёвую з даплатай ў г.Пінску. Тэл. у п.Чысць 99-3-35 да 17-00.

◆ПРАДАМ гараж (ГБК-3) або памяняю на аўтамабіль. Тэл. у Вілейцы 5-69-55.

◆ПРАДАМ або мяняю 2-х пакаёвую прыватызаваную кватэру ў Мінску на Маладзечна з даплатай. Тэл. у Маладзечне 5-27-69 пасля 18.00.

◆ПРАДАМ новы рухавік да матацыкла"Усход". Тэл. у Маладзечне 78-6-33 пасля 16.00.

◆ПРАДАМ ВАЗ-2105 1986 г. сінега колеру за $2100. Тэл. у Маладзечне 5-49-56, 6-35-81.

◆ШЫЮ шубы і паўшубкі з футра заказчыка. Тэл.у Маладзечне 6-55-14.

◆ПРАДАМ шчанят ратвейлера. Тэл. у Маладзечне 6-71-82 (пасля 19-00), у Мінску 69-36-85.

◆ПРАДАМ ПАЗ-672, дызель, аўтафургон нядорага, у добрым стане. Тэл. у г.Беразіно 58-6-99, 58-2-82.

◆ВЫКАНАЮ ўсе будаўнічыя работы. Якасць гарантуецца. Тэл. у Маладзечне 6-62-14.

◆МЯНЯЮ пакой у 3-пакаёвай кватэры на такі самы пакой у іншым месцы Маладзечна, або гэты пакой і паўдома з надворнымі пабудовамі, 10 сотак, прыватызаваная зямля, сад, бетонны склеп,1,5 км ад станцыі Беразінскае, на аднапакаёвую кватэру. Тэл. у Маладзечне 4-47-53, 4-46-63 (рабочыя).

◆ПРАДАМ 2-пакаёвы катэдж на 5 узроўнях з унутранай аддзелкай, аг. плошча 129 м кв., 0,15 га, у в.Цюрлі (1,5 км ад Маладзечна). Ёсць гараж 4x9,6, падвал, цэнтральная каналізацыя, водапravод, магчыма тэлефанізацыя, 380В. Тэл. у Маладзечне 6-39-58 (рабочы).

◆ПРАДАМ жылы драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Цынцавічы, 25 сотак, 5кмад Вілейкі. Тэл. у Вілейцы 7-33-75.

◆ПРАДАМ любыя запчасткі да AUDI-80-100 1979 г.в. VW-Дэта 1981 г.в. Тэл. у Маладзечне 7-06-88, Валера, пасля 18.00.



◆ПРАДАМ набор дрэваапрацоўчага абсталявання з электрапрыводам. Тэл. у Маладзечне 5-00-04.

◆ПРАДАМ дом у вёсцы Мядзельскага раёна, аг. пл. 32,9 м.кв., жылая плошча 22,4м.кв., сад, зямельны ўчастак 0,12 га, недалёка лес. $3000. Тэл. у Мядзеле 5-44-87.

◆ПРАДАМ нядорага дом з гаспадарчымі пабудовамі і ўчасткам 20 сотак у вёсцы Кавалі Ільянскага с/с Вілейскага раёна, напрамак Мінск-Нарач, побач лес, вадасховішча 3 км. Тэл. у Вілейцы 5-33-39 у вячэрні час.

◆ПРАДАМ нядорага дошку на падлогу у колькасці 5,17 м.куб., зруб 8x8 з участкам 8 сотак, вокны стандартныя 8 шт., паркет чырвонага дрэва. Тэл. у Вілейцы 5-53-64 з 9.00 да 18.00 і 5-62-39 з 19.00.

◆ПРАДАМ матацыкл «Днепр-11», новы. Тэл. у Смаргоні 5-23-24.

## АДГУКНІЦЕСЯ!

◆Як мне знайсці цябе, Саша М.? Ведаю, што жывеш ты ўжо не ў Магілёўскай вобласці, а ў Мінску. Ведаю, што нядаўна расшукваў мяне. Напішы мне на ранейшы адрас. Аксана.

Кавалі Ільянскага с/с Вілейскага раёна,

# КУПОН для бясплатных прыватных аб'яў

Напішыце аб'яву друкаванымі разборлівымі літарамі і дашліце ў канверце на адрас: 222310, Маладзечна-7, а/с 1607.

**Тэкст аб'явы і тэлефон (адрас) для друку:**

______________________________________

______________________________________

______________________________________

______________________________________

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):



## Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна

**Маладзечна— 01773, Вілейка— 01771, Смаргонь— 01592, Ашмяны— 01593, Валожын— 01772, Мядзел— 01797, Астравец— 01591, Мінск— 0172**





















**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА N17; 18.08.95-24.08.95**
**Заснавальнікі:** рэдактарат, ЗАТ «Інтэрмаркет», фірма «Фаварыт». **Пасведчанне** N1091. **Індэкс 63212.**
**Выдавец:**рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты».
**Рэдактар:**Аляксандр МАНЦЭВІЧ

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.**Тыраж** 7000 экз.**Цана 500 рублёў.**
**АДРАС ДЛЯ ПІСЬМАЎ: 222310, Маладзечна-7, а/с 1607**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 222310, Маладзечна, вул. Хмяльніцкага, 22, фірма «Фаварыт», «РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА».
**ТЭЛ./ФАКС:**у Маладзечне 54652, тэл./факс у Вілейцы 5-60-73

**РЭКЛАМА.** Базавая стаўка 7500 рублёў за 1 кв. см. Разліковы рахунак N 468704 ФАКБ «ПОИСК» у Маладзечне, код 115, атрымальнік рэдакцыя «РГ»
Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11
**Заказ N** 955 Падпісана ў друк 17.08.95